У нумары:




## НОВЫЯ СЯМЯЦІЧЫ

**Вуліца Свярчэўскага адна з прыгажэйшых у Сямяцічах. Асабліва яна прыгожая летам, калі зазеляняюць, зацвітуць ліпы і сваім араматам дыхаюць у адкрытыя вокны новых жыллёвых кватэр.**

Фота: **В. Млыньчык**




ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

| № 27 (384) | ГОД VIII | 7 ЛІПЕНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР. |
|---|---|---|---|

# НЕ АДРУБАЛІ РУКІ...

КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ

Пачалося звычайна. Так, як пачалося б гэта ў кожнай вёсцы.

На весну 1959 года ў Саках сарганізавана сельскагаспадарчы гурток, у які ўступіла некалькі гаспадароў. Паявілася супольная малатэрня і першы даход.

— Зарабілі каля дзесяці тысяч начыста, — кажа Сцяпан Шаховіч, былы старшыня. — Пяць тысяч злотых прызначылі на зварот членскіх укладаў...

Сакоўскі гурток па сённяшні дзень вёў бы бытаванне працавітай пчолкі, калі б не прабушавала па аколіцы... камасацыя. Двойчы, з папраўкамі.

Ні з таго, ні з сяго невялікі гурток разросся ўтрая! Запісваліся, бо, шчыра гаворачы, мелі надзею атрымаць выгодныя палеткі, лугі. Такіх назбіралася шмат і яны пераважылі. Свае таемныя спадзяванні хутка высунулі цалкам афіцыяльна на першы план дзейнасці сельскагаспадарчага гуртка.

— Дастанем лепшыя землі. Мы павінны дастаць лепшыя землі!

Чаму? Ці толькі таму, што належаць да арганізацыі?

— У нас ёсць машыны! Во! — тлумачыў хтосьці. — Таму спатрэбяцца роўныя глебы...

Другая, несарганізаваная, палавіна вёскі перапалохана моргала вачыма. Затлелі ў іх мёртвыя іскрынкі нянавісці.

— А мы, што? Не гаспадары, ці як?!

Камасацыя не выйшла па мыслі гурткоўцаў. Здавалася, гэты факт залагодзіў небяспечную трэшчыну, якая паказалася паміж сельскагаспадарчым гуртком, а рэштай вёскі.

У гуртку заклубавалася.

— Ёсць на свеце ўлада, ці не?!

— Ціхшэй, хлопцы! — адзін голас прабаваў перакрычаць усіх.

— К чорту! — лаяліся.

— Раз не спрыяюць нам, дык няхай самі круцяць гэтымі «кулкамі»!!

Такія і падобныя выкрыкі чуліся ў Саках. Пляваліся ды каркалі, добра не ведаючы, на каго і за што? Нарэшце, усю злосць сагналі на **сваім** сельскагаспадарчым гуртку — сваім дзіцяці, якое спладзілі мімаходам, па дарозе да спадзяванай зямлі, і якое цяпер аказалася раптам ва ўсім вінаватым. Значыць, раз няўдачнае дзіцё, не такое, якога хацелі, дык вон яго! — Не хочам знаць і ведаць!!

Лёгка сказаць: — вон! Але гэтае дзіцё, нягледзячы на сварлівую непагадзь, даволі шпарка расло. Апрача малатарні, загудзелі трактары — «Урсус» і «Зэтар». Заблішчалі на сонцы «талеркі», культыватары, касілкі. Прыбіліся і пастаянныя трактарысты Лісоўскія. Бацька з сынам. Жывуць блізка, у суседнім Зубаве.

Зышліся Сцяпан Шаховіч з сакратаром Харытонам Сідаруком ды падумалі.

— Будзем рабіць так, як ёсць...

І наказалі Лісоўскім, а сыну Паўліку перад усім:

— Глядзі, каб усенька «іграла»...

Гарласты хор крыкуноў уступіў месца салодкай музыцы трыо — Лісоўскага і кумоў Шаховіча і Сідарука. Дзесьці ззаду матаўся на прычэпку скарбнік Санька Ахрэмюк, але ён не стараўся мець вялікага голасу ў справах і не меў яго.

Сакоўская тэхніка іграла пасвойму, а найгаласней было чуваць навюткага «Зэтара». Лісоўскі не расставаўся з ім. Усё ў Зубаве прытрымоўваў яго і цэлымі днямі пыхкаў па навакольных палях, дарогах. Некаторыя нібы бачылі яго нават аж недзе пад Заблудавам... Зрэшты, так ці іначай, але досыць таго, што чым больш прыбывала машын, тым меншымі ставаліся... даходы. Старшыня выясняў цікавым суседзям:

— Мокрыя ў нас землі, браткі... Перапалы паліва губяць заробкі, ну, і рамонты таксама... Не жарты!

Цімашук маўчаў. У сінім «каеце» ўсё пісаў і пісаў доўгія слупікі лічбаў. Абазначалі яны: колькі гадзін Лісоўскі перапрацаваў у Шаховіча, а за колькі палічана плату? Рахаваў Цімашук, рахаваў, і дайшоў да вываду:

— Людзі добрыя! Але ж і камбінуюць!!... А-яй-яй-яй...

Кума Харытона Сідарука не кантраляваў. Задалёка жыве, у канцы вёскі.

Цімашуковыя сенсацыі нікога не здзівілі. Наадварот, здзівіліся б людкове, каб кумы не камбінавалі!?... Тады давай Сідарук выпісваць службовыя дэлегацыі ў Бельск — сабе, куму і яго сыну. Нат' і па дзве дэлегацыі на адзін дзень, па

**(Працяг на стар. 5)**

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



**Кладка на рацэ Нарве ў аколіцы вёскі Рыбакі, Гайнаўскага павета. Улюбёнае месца маладых вудароў.**

Фота: **В. Млыньчык**

НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

# ВЫХАВАННЕ ПРАЗ ПРАЦУ



У чэрвені бягучага года адбыўся ў Беластоку чарговы IV Ваяводскі з'езд Саюза вясковай моладзі.

**— Таварыш Недзведзь, — звяртаюся да старшыні Ваяводскага праўлення Саюза вясковай моладзі, — якое месца займае ваша арганізацыя ў жыцці вёсак Беласточчыны?**

— Як самі ведаеце, вёска наша пастаянна змяняе сваё аблічча. Маладыя людзі менш адчуваюць прыгнёт адсталасці, старыны. Яны хутчэй успрыймаюць усялякія навінкі. Таму іх удзел у перабудове вёскі ёсць сапраўды вялікі. Калі яшчэ ўявіць сабе, што сённяшнія дваццацігадовыя юнакі і дзяўчаты незадоўга стануць самастойна гаспадарыць на сваіх гаспадарках — неабходна стыхійныя імкненні моладзі да ўсялякага роду навінак планава арганізаваць і накіроўваць у найбольш патрэбным і карысным напрамку. Гэта вялікая праца. Яе праводзіць менавіта Саюз вясковай моладзі. Праграма дзейнасці ЗМВ непасрэдна выплывае з актуальных патрэб вёскі ды служыць гэтым патрэбам.

**— Каб ставіць, а тым больш выконваць так высакародныя заданні, неабходна арганізацыі заваяваць давер у моладзі, пражываючай на вёсцы.**

— Прымушаеце мяне, каб хваліўся.

**— Калі маеце чым...**

Арганізацыя наша ў Беластоцкім ваяводстве налічвае зараз амаль 28 тысяч членаў. Сярод іх звыш 20 тысяч непасрэдна працуе на сваіх гаспадарках. Гурткі Саюза вясковай моладзі знаходзяцца зараз у кожнай трэцяй вёсцы Беласточчыны. Ніколі ў гісторыі нашага ваяводства не мелі мы так разбудаванай маладзёжнай арганізацыі.

**— Масавасць арганізацыі не дае яшчэ вобразу яе актыўнасці.**

— Так, я згодны з вамі, але людзі, а тым больш моладзь, уступаюць у рады арганізацыі гады, калі бачаць яе працу, калі дзейнасць арганізацыі прыносіць для іх нейкую карысць.

**— Што вы тады робіце?**

— Перш за ўсё намагаемся ўсебакова пашырыць сельскагаспадарчыя веды вясковай моладзі.

**— Якім чынам?**

**(Працяг на стар. 5)**

# КРЫНІЦЫ БЕСПРАЦОЎЯ Ў ЗША

Вядома, што зараз у ЗША звыш 5-ці мільёнаў людзей не мае працы. Нягледзячы на шматлікія абяцанні вашынгтонскіх палітыкаў беспрацоўе ў краіне ўзрастае. Газета «Нью-Йорк Геральд Трыбюн» удзяляе гэтаму пытанню трывожны і вельмі знамянальны артыкул. Ён пачынаецца са слоў: «Цяжка перавялічыць размеры крызісу ў галіне занятасці і абучэння, крызісу, які зараз як перарваная плаціна пагражае затапленнем гаспадаркі і можа перашкодзіць новаму наступленню адміністрацыйных улад на расісцкую дыскрымінацыю».

Аб сувязі паміж беспрацоўем і расісцкай дыскрымінацыяй неграў у Амерыцы скажам крыху пазней. А зараз варта спыніцца над самым беспрацоўем. Яго крыніц трэба шукаць, зразумела, у капіталістычнай сістэме гаспадаркі. Прыватны амерыканскі капітал зацікаўлены развіццём тэхнікі і аўтаматызацыі прадукцыйных працэсаў, таму што гэта ўсё змяншае кошты вытворчасці; разам з тым гэты капітал не ўлічвае гвалтоўнага прыросту насельніцтва, які наглядаем у пасляваенныя гады таксама і ў ЗША. Амерыканскія эканамісты лічаць, што адзіны адказ на натуральны прырост — гэта даць штомесяц працу кожным новым 300 тысячам асоб. Аднак колькасць новых месц з'яўляецца «значна меншай» (эканамісты сарамліва не падаюць да агульнага ведама гэтай колькасці). У выніку армія беспрацоўных няспынна расце.

Нядаўна прэзідэнт Кенедзі выступіў у кангрэсе з прапановай прызнаць ураду крэдыт у 400 мільёнаў долараў, каб можна было абучаць новыя кадры, даць моладзі працу і г.д. Хаця такая сума —гэта толькі кропля ў моры ў параўнанні з агромнымі патрэбамі, аднак кангрэс зусім не спяшаецца з прызнаннем крэдыту. Зразумела, што бліжэйшымі кангрэсу з'яўляюцца інтарэсы капіталу, чымсьці дзяржаўнай улады.

Якую ж сувязь з беспрацоўем маюць расісцкія выступленні ў ЗША? Дык вось сярод беспрацоўных знаходзіцца найбольшы працэнт неграў. Яны, асабліва на Поўдні, пазбаўлены рада грамадзянскіх правоў і таму не маглі здабыць адпаведнай адукацыі, неабходнай у працы ў аўтаматызаваных фабрыках. Такім чынам негры складаюць асноўную колькасць некваліфікаваных рабочых, а попыт на іх з году ў год падае. Афіцыяльная амерыканская статыстыка хаця і інфармуе, што занятасць у ЗША ўзрасла на працягу апошніх 3-ох год на 2,5 мільёна асоб, аднак разам з тым зменшылася на 200 тысяч у прамысловасці і 300 тысяч асоб у сельскай гаспадарцы — колькасць некваліфікаваных рабочых. Гэта карціна адлюстроўвае амерыканскія грамадскія канфлікты і часткова выясняе прычыны гвалтоўных выступленняў неграў, дамагаючыхся раўнапраўя.

Зараз, калі на Поўдні ЗША расісцкія выступленні разгортваюцца з выключнай сілай, прэзідэнт Кенедзі паслаў у кангрэс новы праект закону аб раўнапраўі неграў. Аднак таксама як і ў выпадку 400 мільёнаў долараў, кангрэс не спяшаецца з прыняццем гэтага закону. Зразумела, што і тут разыходзіцца аб эканамічныя матывы. Члены кангрэса, прынамсі тыя з Поўдня, зацягваюць справу прызнання неграм роўных правоў. У выніку ў ЗША склалася сітуацыя, якая паводле ацэнкі друку сведчыць выразна аб крызісе ў галіне занятасці. Намеснік міністра працы Джон Ф. Гемінг назваў гэты крызіс «трывожным». Ён, аднак, не выступіў з ніякай прапановай, накіраванай на паляпшэнне гэтага становішча. А намаганні прэзідэнта Кенедзі, выражаныя ім у праектах законаў, з'яўляюцца толькі кропляй у моры. Таму можам згадзіцца з супрацоўнікам «Нью-Йорк Геральд Трыбюн», які сцвярджае: «Па сутнасці вырашэнне гэтага крызісу (беспрацоўя — Ул. Л.) зусім не пачалося і мабыць увогуле не надаецца ён да вырашэння.» Напэўна і амерыканскі капітал мае падобную думку.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

**ВАСІЛЬ БЕЛАКАЗОВІЧ**

# Вялікі сябар беларусаў

Хочам прыпомніць нашаму чытачу вобраз польскага гуманіста, вялікага сябра беларускага люду, абаронцы яго інтарэсаў — Тадэуша Врублеўскага.

## 1. ДЗЯЦІНСТВА І МАЛАДОСЦЬ

Тадэуш Врублеўскі нарадзіўся 8 лістапада 1858 года ў Вільні. Малы Тадэуш выхоўваўся ў атмасферы сямейных гістарычных і паўстанцкіх традыцый. Маці Тадэуша, Эмілія Бенёўская, была ўнучкай слаўнага Маўрыцыя Бенёўскага, канфедэрата Барскага, выгнанніка, правадыра і падарожніка, які ўцёк з Камчаткі на лодцы і даплыў да Мадагаскара, дзе стаў каралём туземцаў. Дзедам Тадэуша па маці быў маёр польскіх войск з перыяду лістападаўскага паўстання 1830—31 гадоў Бартламей Бенёўскі. Валерый Врублеўскі — слаўны змагар студзеньскага паўстання 1861—63 гадоў на Беларусі, пазней актыўны дзеяч польскай эміграцыі і вядомы правадыр левага берага Сены ў час Парыжскай Камуны 1871 года — даводзіўся Тадэушу дзядзькам. Маючы каля васьмі год, Тадэуш Врублеўскі разам з бацькам наведвае ў 1865 годзе свайго дзеда Бартламея Бенёўскага ў Лондане, а затым свайго дзядзьку Валерыя Врублеўскага ў Парыжы.

У сям'і Врублеўскіх часта ўспаміналі студзеньскае паўстанне, гаварылі аб удзеле ў ім беларусаў, падкрэслівалі іх геройства і мужнасць, горка перажывалі іх няшчасную долю. «Успамінаю свае дзіцячыя гады, — гаварыў пазней Тадэуш Врублеўскі. — Калі ў крыві душылася паўстанне 1863 года, апошні бой у Белавежскай пушчы даў мой дзядзька Валерый Врублеўскі на чале беларускіх стральцоў са школы ў Саколцы. Потым, калі я быў у дзядзькі ў Парыжы, яго ад'ютант, стары Кузьма, спяваў мне па-беларуску паўстанцкія песні». Ужо ў дзіцячыя гады Тадэуш Врублеўскі палюбіў сумныя беларускія песні.

У 1877 годзе Врублеўскі канчае з залатой медаллю гімназію ў Вільні і збіраецца як сын лекара пасвяціць сябе таксама медыцыне. Едзе ў Пецярбург і паступае ў Медыцынска - хірургічную Акадэмію. Паступова пачынае ўсё больш цікавіцца палітычным жыццём. У 1880 годзе пераводзіцца на тое ж аддзяленне Варшаўскага універсітэта. Але ўжо ў лютым таго ж года арыштоўваецца за ўдзел у канспірацыйнай арганізацыі з сацыялістычнымі тэндэнцыямі. Спачатку сядзеў у цытадэлі, а ў жніўні 1881 года быў высланы ў Сібір. Нейкі час сядзеў у Цюмені, пазней быў перавезены ў Ялтураўск, Табольскай губерні.

Восенню 1883 года вяртаецца са ссылкі, пасяляецца ў Пецярбургу, дзе выбірае спецыяльнасць юрыста, рыхтуецца да экзаменаў па правазнаўству і здае яго экстэрнам ў 1886 годзе на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта. Пазней некалькі год працуе ў горадзе над Нявой пад кіраўніцтвам вядомага польскага юрыста і публіцыста Уладзіміра Спасовіча, дзе ў якасці яго памочніка праслыў вельмі добрым адвакатам.

## II. ЗНОЎ У ВІЛЬНІ

Пасля смерці бацькі Врублеўскі ў 1891 годзе пераязджае ў Вільню. Працуе у якасці праўніка Палескай чыгункі. Адначасова развівае шырокую і актыўную грамадскую дзейнасць. У 1900 годзе арганізуе, а фактычна ўзнаўляе традыцыі Віленскага універсітэта, Таварыства Шэльмаў. Прымае ўдзел у працы народнага універсітэта і асветнага таварыства «Веды», чытае лекцыі і праводзіць гутаркі, галоўным чынам, з галіны дзяржаўнага права.

У гэты ж час Врублеўскі горача бярэцца за расшырэнне сямейнага кнігазбору, закупляе цэлыя бібліятэкі, прыватныя і музейныя архівы, грамадскія манускрыпты, гістарычныя дакументы, старыя друкі, карціны, разьбу па дрэву, медалі, ордэны, манеты, зброю. Асабліва яго цікавіць усё, што датычыць Вялікага Літоўскага Княжаства і нацыянальнасцей засяляўшых Літву. У 1912 годзе па яго ініцыятыве арганізуецца Таварыства Публічнай Бібліятэкі імя Эміліі і Еўстахія Врублеўскіх.

Вялікую грамадска - палітычную актыўнасць праявіў Врублеўскі ў час рэвалюцыі 1905 года. Як дэлегат ад горада Вільна ён удзельнічаў на з'ездзе дзеячоў самаўпраўлення ў

**(Працяг на стар. 7)**




■ 27 чэрвеня адбылося пасяджэнне Гайнаўскага аддзела БГКТ. У парадку дня былі справы: 1) абслужэнне школ у сувязі з заканчэннем навучальнага года, 2) арганізаванне экскурсій і фэстынаў, 3) мабілізацыя актыву да абслужэння вясковых гурткоў БГКТ.

■ Гурток БГКТ у Семяноўцы пры дапамозе аддзела БГКТ у Гайнаўцы арганізаваў дзень культурнага адпачынку, на які злажыліся: адпачынак над рэчкай Нарвай спалучаны з плаваннем і танцавальная вечарына, якая перапляталася цікавымі конкурсамі, а менавіта на найлепш заспяваную беларускую песню, на найлепш выкананы танец польку і на найлепшы культурны анегдот. Найбольш працы ў паспяховасць гэтага мерапрыемства ўлажыў сакратар прэзідыума ГРН у Семяноўцы Юры Кіслы.

■ У сувязі з 22 гадавінай нападу фашысцкай Германіі на СССР Гайнаўскі аддзел БГКТ арганізаваў у «Доме настаўніка» вечарынку пад загалоўкам «Ніколі больш вайны». На запрашэнне аддзела прыехаў прадстаўнік Савецкай Арміі. Заслугоўвае на падкрэсленне вельмі цёплая атмасфера.

■ Гурток БГКТ з Новаберазова арганізаваў экскурсію ў Кэнтшын і Белавежу.

■ 9 чэрвеня актыў і працаўнікі Гайнаўскага аддзела БГКТ у асобах Міколы Самоціка, Кастуся Майсені, Веры Юшчук, Андрэя Беразаўца, Віктара Буры і Міколы Алексеюка ўзялі ўдзел у школьных урачыстасцях у сувязі з заканчэннем навучальнага года. Наведалі яны і выступілі з кароткімі прамовамі ў Кляшчэлях, Ласінцы, Барысаўцы, Нарве, Белавежы, Семяноўцы, Нараўцы і Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы.

■ Працаўнікі і актыў ГП БГКТ у сувязі з заканчэннем навучальнага года наведалі школы ў Сухінічах, Кнышэвічах, Піражках, Паўночным Востраве, Новым Востраве, Гуранах, Лішчанай, Нетупе (Сакольшчына), Ялоўцы і Тапалянах (Беластоцкі павет).

# Спорт

28—30 чэрвеня былі асаблівымі днямі для беластачан. Увесь Беласток захварэў спортам. Калі б вылужаны стадыён у Звярынцы мог гаварыць, ён са здзіўленнем адзначыў бы, што толькі новых твараў за ўсю сваю гісторыю яшчэ не бачыў. Нават людзі, якіх звычайна сілай не зацягнеш у гэты прыемны куток горада, у гэтыя дні гадзінамі запар акупавалі трыбуны стадыёна.

Які ж магніт такі моцны? Коні. Нічога дзіўнага, конныя спаборніцтвы ў Беластоку рэдкасць. А тут яшчэ і міжнародныя (Была каманда з ГДР). Эмоцый хопіць на некалькі год. А сваёй дарогай, варта часцей выходзіць насустрач патрабаванням мас, а не толькі чакаць на шчаслівую нагоду. У гэтым выпадку быў ёю Год Беластоцкай зямлі.

На футбольнай арэне вялікая сенсацыя. Непераможны дагэтуль лідэр савецкага чэмпіяната маскоўскае Дынама пацярпеў першае паражэнне. Нанеслі яго аднаклубнікі з Мінска. Беларусы выйгралі 2:0 і, як адзначае савецкі друк, маглі выйграць яшчэ вышэй. Пераканаўчай перамогай мінчане значна пахіснулі рэпутацыю сваіх славутых сапернікаў і моцна падбудавалі сваю. Адзначым, што да сустрэчы з мінчанамі масквічы прапусцілі ў свае вароты толькі 3 галы. А гулялі ўжо з 15 камандамі. Гэты факт прыносіць яшчэ больш гонару беларусам.

**Аут**




### ТРАФІМ КНЫШ

На світанні вязні Асвенціма, якіх перавезлі ў Остбург, былі адканваіраваны на завод «Ганс Бемер». Тут іх ужо чакалі і развялі па цэхах.

У аддзяленні токарных станкоў механічнага цэха, у ліку іншых палонных, апынуўся Трафім Кныш — маленькі мізэрны чалавек год трыццаці пяці, ціхі і нязграбны на выгляд. Але неўзабаве аб ім даведаўся ўвесь завод. Пачалося з таго, што Кныш за дзве гадзіны наладзіў вялікі шматшпіндэльны аўтамат, над пускам якога звыш сутак беспаспяхова біліся завадскія механікі. Неўзабаве навокал яго сабраліся дзесяткі нямецкіх рабочых. Яны са здзіўленнем назіралі, як рускі знімаў з апрацоўваемай дэталі стружку нябачанай таўшчыні. Да таго ж станок вярцеўся на хуткасці, якая амаль

180

на палавіну перавышала звычайную дапушчальную.

Вечарам майстар далажыў аб Кнышу інжынеру, той — дырэктару. Кюметц быў задаволены. Падумаць толькі, у першы ж дзень выявіўся такі талент! Так, выходзіць, што ён нездарма з'ездзіў у Аўшвіц.

На другі дзень дырэктар асабіста наведаў цэх і пераканаўся, што рускі токар сапраўды працуе выдатна. Каб падахвоціць іншых, Кюметц аб'явіў: палоннаму назначаецца паўтарачны харчавы рацыён і дарыцца дваццаць марак.

Памочнік начальніка лагернай аховы, у сваю чаргу, сказаў, што дазваляе яму свабодны выхад з цэху на завадскі двор, дзе ёсць крама, а таксама вызваляе ад усіх лагерных работ.

Трафім Кныш шчасліва ўсміхнуўся і падлізліва кланяўся дырэктару і афіцэру.

Лагернікі моўчкі назіралі за гэтай сцэнай. Ілюзій наконт добрасардэчнасці і гуманнасці фашыстаў у іх не ўзнікала.

### ПРАВАКАЦЫЯ?

Аскер выкаціў машыну на завадскі двор, спыніў ля гаража. Ён толькі што прывёз Кюметца і, карыстаючыся свабодным часам, збіраўся змяніць у маторы масла.

Ён падняў капот матора і ўзяўся за справу.

За дзеяннямі шафёра ўважліва назіраў з акна цэха палонны Кныш. Неўзабаве ён выйшаў.

181

Кныш падыйшоў да Аскера, калі той, разаслаўшы на зямлі гумовы коўрык, ужо падрыхтаваўся было лезці пад аўтамабіль. На ламанай нямецкай мове Кныш папрасіў дазволу памагчы і, не чакаючы адказу, узяў разводны ключ і каўзануў пад машыну.

Аскер быў азадачаны. Ён прысеў на кукішкі, зазірнуў уніз і падсунуў палоннаму жалезную бляху.

— Вазміце, — сказаў ён, — пастаўце пад картэр і адкручвайце корак.

Кныш пачаў адкручваць інструментам.

— Адкуль вы? — спытаў Аскер. — З Аўшвіца?

— Ага, — сказаў палонны па-руску. — Ад сержанта Аўдзеева.

Што гэта — правакацыя? Але калі б немцы выявілі яго сапраўдны твар, яны б не рабілі праверкі. Яго б узялі адразу. Значыць, не правакацыя. Што ж тады?

— Таварыш гвардыі старшы лейтэнант, — працягваў палонны, — Аўдзееў наказаў...

— Ціха, ты!

Аскер агледзеўся.

— Таварыш гвардыі старшы лейтэнант, гляньце, — прашаптаў Кныш.

Аскер убачыў, як палонны выцягнуў спад адзежы кінжал.

— Ваш? — ціха спытаў Кныш. І, бачучы, што субяседнік не адказвае, сам зрабіў вывад: — Бачу, ваш!

**(Працяг на стар. 4)**

182

# „Вар'ятка"

С. РАМАНЬЧУК

Праз снежную завіруху, якой, здавалася, і канца не будзе, прабіраўся чалавек. Злосны вецер рваў на ім старое, паношанае паліто, засыпаў калючым пылам вочы. А чалавек усё ішоў ды ішоў, па калені западаючы ў сыпучым снягу. Здалёк здаваўся ён хварасцінкай, якую нясе вецер няведама адкуль і куды.

Хто ён, гэты чалавек? Куды ён ідзе, спяшаецца? Вось ён спыніўся, цяжка ўздыхнуў, павярнуўся бокам да ветру.

Гэта ішла высокая, худая, нешта шаптаўшая і ціха ўсміхаўшаяся бабулька. Вецер свістаў, гудзеў, то закрываў, то адкрываў накінуўшыя ў белым тумане агеньчыкі недалёкай вёскі. Старушка раптам затрымалася, пастаяла не рухаючыся хвілін некалькі, і пайшла зноў.

Пралягаючае побач шасэ клікала яе, цягнула, і яна, то падаючы, то ўстаючы ішла, спяшалася. «— Я іду, іду, дарагі мой, — шаптала яна. — Іду, мілы! А як жа, сынок, іду...»

Вецер шугануў, завыў і зноў збіў яе з ног. Здавалася, яе старыя, многа на вяку сваім света схадзіўшыя ногі не змогуць ужо болей падняцца, устаць. Яна доўга праляжала цяжка аддыхаючы, а потым ціха прагаварыла: «Я хутка ўстану, родненькі, хутка...» Абаперышыся акачанеўшымі ад марозу рукамі на снежную пярыну, яна была ўжо ўстала, але ногі, быццам скаваныя, увязлі зноў. Старушка рухнула на снег, як падкошанае ў ліпеньскі дзень травяное сцябло...

Шасэ, да якога яна ішла, было побач. Тут, два разы ў дзень, затрымліваўся беластоцкі аўтобус. Пачуўшы гудзенне матора старушка заварушылася, намагалася, устала, выцерла канцом хусткі набегшыя слёзы і ўтарапіла ў начную цемру свае шасцідзесяцігадовыя вочы. Вецер данёс гудзенне матора, а вось ён і сам, аўтобус, вынырнуў з-за ўзгорка. У бела - жоўтай палосцы святла аўтобусных фар танцавалі, кружыліся белыя пылінкі - зорачкі, снег. Аўтобус на момант асвяціў бабульку, і, не прыпыняючыся, паехаў далей. Ён пакінуў толькі след, які зараз жа пачаў замятаць рады новай працы, горды ўладальнік палёў, лясоў і дарог — вецер...

...І зноў нікога. Як учора, як пазаўчора, як многа год таму назад... Праўда, учора ў гэту пару аўтобус прывёз вясёлую, шумную кампанію моладзі, але сярод іх не было яго, яе Міхалка. Не было яго і пазаўчора, не было і на прошлым тыдні; няма ўжо больш чымсьці дзвацаць год... Пайшоў у армію ў 39-ым, напісаў быў з Кракава, а цяпер, вось, і не піша...

Старушка, пастаяла, пагладзела ўслед аўтобуса, паківала, уздыхаючы, галавой.

«Заўтра, відавочна, будзе... Беражы, Ты яго, Госпадзі наш, сцеражы, Ты, яго ад злых людзей, ад няшчасця...» — прашаптала яна.

І зноў яе худая постаць чарнела ў начной цемры, зноў яна ішла, падала, уставала... Цяпер яна ішла павальней, неспяшаючыся. Яна ішла дамоў. Ішла сама, зноў сама...

...Калі яна дабралася дамоў, ля дзвярэй затрымаў яе нечый голас:

— І куды вы гэта, мама, у буру такую? Чаго?..

— Хто гэта, га? — перапужалася бабка, але тут жа, радасна сказала: — А-а, гэта ты, дочка... Заходзь! — адкрываючы дзверы гаварыла яна. — Заходзь!...

Увайшлі яны ў вялікую, халодную кухню.

— Лямпу, дачушка, запалі! Запалі, галубка, а то рукі мае, як з дрэва, быццам бы яны і не мае...

Запаленая лямпа кідала нейкія дзівосныя цені на чыстую, беласнежную, з іконамі ў кутку, ізбу.

— А я да алтобуса хадзіла... (Бабка заўсёды гаварыла «алтобус»). Думала: сёння сустрэну...

Чарнявая, з добрымі, ласкавымі вачыма бабкіна дачка не гаварыла нічога. Яна сядзела ціха, нізка скланіўшы галаву і глытала слёзы.

— То ж сон мне прысніўся, — працягвала бабуля. — Бацька твой, Пецяа — царства яму нябеснае! — мне паказаўся... І кажа ён мне, мілая ты мая, такія вось словы: — «Ты чакай Міхалка, Марыя! Чакай, таму што жывы ён і дамоў вернецца хутка. Чакай — кажа — абавязкова!..

— Мама, колькі ж ужо год... — перарвала дачка.

— Ну і што, дачушка, ну і што ж, дарагая? — здзіўлена пытала маці. — Жыве наш Міхалка, жыве!... Я гэта знаю, о, я гэта вельмі добра знаю... І ён прыедзе, пабачыш!... Думала: сёння будзе, няма... Значыць, справы ў яго вельмі важныя, пакінуць іх не на каго, вось ён і не едзе пакуль што...

Дачка не супярэчыла. Яна ведала — маці нельга супярэчыць. Ды ці гэта мае сэнс? Яна верыць. Гэта адно, што засталося старушцы. Памятаць, чакаць. Гэтага нельга забіраць ад яе. Забярэш і — яна загіне, прападзе. Як кветка без вады засохне, асыплецца...

— Печку трэба напаліць, — гаварыла безупынку старушка. — Я і дроў прынесла... А запалкі недзе прапалі... Дзе ж гэта яны?.. Ты ж лямпу запальвала? Га? Што ты маўчыш?..

Дачка сядзела нерухома, бясслоўна.

— Я кажу: запалкі недзе прапалі, — паўтарыла бабуля, — а тут чай заварыць трэба, вады нагрэць. А раптам ён поездам прыедзе?... Дарога са станцыі, знаеш, якая; сагрэцца яму трэба будзе, а ў нас і няма нічога. Вось, запалкі, на коміне ляжалі... Пастаў ваду, дачушка, а я — зараз...

— Мама! Куды вы?! — закрычала дачка і, пабачыўшы, куды накіравалася маці, голасна заплакала. Маці стаяла ля пасцелі...

— Ой, халодная якая!.. Як жа ж ён сюды ляжа?! Дочанька, хутчэй ты з чаем, любая, а то нябось, дрыжыць увесь, а тут, якая сустрэча...

І яна пачала насіць грэць да печы то коўдру, то падушку...

— Мама, навошта ўсё гэта? Няма яго, даўно няма! Вы ж ведаеце!.. — прасіла дачка.

— О-о, доньку, хаваць у зямлю жывога грэх! Грэх! І Бог гневацца на нас будзе, і людзі... Няўжо мы так паступаць павінны?..

Чужым, ды ці толькі чужым? — трудна зразумець: адкуль ідуць у яе сілы хадзіць кожны дзень увечар вось некалькі год да аўтобуснага прыпынку ў дождж, снег, буру?...

У вёсцы лічаць яе вар'яткай... Ідзе яна, бывае, па вёсцы, мармыча нешта сама да сябе, усміхаецца, або голасна плача... Ходзяць дзеці за ёй табуном, крычаць «вар'ятка»... А яна іх кліча да сябе, часам яблыкамі частуе, глядзіць на іх і плача... Дзеці не знаюць, што рабіць. Пасядзяць, пасядзяць і паўцікаюць... Бедаюць людзі, што яна чакае сына. Адны спачуваюць, другія смяюцца... А яна, маці, выглядае, чакае. Кожны дзень чакае. Лічаць яе дурной, здзецінелай, а яна чакае...

Вось і цяпер гаворыць яна да дачкі:

— І паварочваецца язык у цябе, дочка, гаварыць так?! Брата свайго жывым у гроб класці!

І тут жа дадавала: «Прасці ёй, Госпадзі; не знае яна, што робіць і гаворыць...»

...Колькі ўжо раз дачка гаварыла маці:

— Вы б, мама, да нас перайшлі; адны ж вы. Дом у нас вялікі, Стэфан мой, дзеці, любяць вас... Пераходзьце!

Старая дзякавала кожны раз, як і сёння, і гаварыла:

— Донюшка, а куды ж Міхалка прыдзе? Дом жа наш, глянь, вялікі, бацькоўскі. Няўжо пад чужым дахам нам жыць, а свая хата пуставаць будзе?... Вось, прыдзе Міхалка, тады мы і зажывем!...

І вочы яе свяціліся вялікай радасцю. Так канчаліся ўсе размовы. Дачка забягала да маці па некалькі раз у дзень. Наводзіла парадак, прасіла, тлумачыла і ні з чым вярталася дамоў.

Вось і сёння зноў сама засталася старая Марыя... І доўга-доўга ноччу гарыць агонь у яе доме. Доўга ходзяць яе старыя ногі ад акна да акна, доўга старыя выплаканыя вочы ўглядаюцца ў начную цемрадзь. То сядае яна ля печы адпачыць, то, задрамаўшы, на хвіліну, зрываецца, напалоханая брэхам сабак.

...І зноў падперышы бараду рукою, яна ўважліва ўглядаецца ў акно, прыслухоўваецца да начных шолахаў, ціха шэпча нешта, крэсціцца, ходзіць ад акна да акна. Змучыўшыся, яна тут жа, ля печы, засынае на маленькім крэселку... Прачнецца — і пачне свой дзень крокамі ад акна да акна, сустрэчай аўтобуса, які ўсё ж такі некалі прывязе яе Міхалка, нявыказаным горам матчынага сэрца... Сэрца, якое заўсёды кахае, выбачае, спадзяецца, чакае...



## ВІКТАР СТАХІЮК

**вучань 8 класа беларускага ліцэя ў Бельску.**






## РОДНЫ КУТ

Родны, мілы мой кра —
Поўны зелені кут.
Сее жменямі май
Радасць нашую тут.

Ля шаўковых лугоў
Векавы дрэмле бор.
За шапкамі стагоў —
Жыццядайны прастор.

Неба сіняе тут,
Бы з пралесак яно,
Шле табе, родны кут,
Прамяністы вянок.

З залатых каласоў
Табе вытчэм убор.
Колькі казачных сноў
Узлятае да зор.

Табе, родненькі кут,
Гэту песню маю,
Каб шчаслівы ты быў,
З віншаваннем пяю.

## ШАХЦЁРЫ

У зямельцы глыбока, глыбока
Жыццё йдзе ў сваёй каляіне.
Калідоры і проста і бокам
Ляглі па вугальнай краіне.

Якая там сіла гуляе?
Хто рые падземныя норы?
Там вугаль для нас дабывае
Адважнае племя — шахцёры!

Ім песня у поўныя грудзі,
Іх труд мы у вершах хвалім.
Учора — нязнаныя людзі,
Сёння героямі сталі.

## ВУЧАНЬ

Дамоў прыйшоў са школы Коля,
Паклаў кніжкі. — Вольнаму воля!
Мне й так усяго не адалець,
А што ўмеў, то й буду ўмець.
Сеў за стол і паабедаў,
Потым Янука наведаў.
З Януком «прагаварыў»
Да пазнюсенькай пары.

У школе ён на другі дзень
Ля дашкі стаяў, як пень.

ВІКТАР СТАХІЮК

# Маеш плён — думай пра наступны

Ужо хутка жніво. Выедуць у поле снапавязалкі, касілкі і жняяркі. Выедуць да працы трактары, якіх нашыя сельскагаспадарчыя гурткі маюць звыш 1000. Выйдуць людзі з косамі, хаця яны сімвалізуюць сярэдневякоўныя метады ўборкі. І на іх прыдзе час — пойдуць, як памятка, на гару.

Жніво, гэта цяжкі перыяд. Цяжкі, але прыгожы. Збіраем жа плён гадавой працы. Цешымся з добра прадказваемага ўраджаю. Цешымся і... часта забываем, што ўжо пара падумаць аб наступным ураджаі. Так, так — аб новым ураджаі, хаця сёлеташні яшчэ не пад страхою.

Мы павінны памятаць пра т.зв. комплекс пасляжніўных работ (лушчэнне глебы, вапнаванне, знішчанне пустазелля і прадухілянне затраты вільготнасці ў глебе).

Найважнейшай агратэхнічнай працэдурай, якую выконваем ужо ў часе жніва, з'яўляецца лушчэнне глебы. Скошанае і звязанае збожжа ставім у мэндлікі. Тады робім лушчэнне глебы, або інакш плыткае ворыва (5—8 см). Зараз пасля гэтага ідзе барана, якая разрыхляе глебу і пабуджае насенне пустазелля да прарастання. Калі поле пакрыецца пустазеллем, пускаем тады цяжкую барану.

Дзякуючы гэтай працэдуры знішчаецца пустазелле і адначасова выдабываецца разам з гэтым з глебы насенне пустазелля, якое ляжыць значна глыбей. Такія працэдуры, праведзеныя некалькі разоў, з'яўляюцца ўдачным спосабам барацьбы з пустазеллем.

Трошкі інакш паступаем у выпадку, калі палі вельмі моцна пакрытыя пырнікам. Тады глыбіня лушчэння сягае каля 10 см (парасткі пырніку знаходзяцца ў глыбіні каля 8 см). Глыбіня ворыва залежыць ад ступені пакрыцця пырнікам глебы, а таксама ад якасці глебы (на глебах лягчэйшых — глыбей).

Пасля некалькіх дзён, калі глеба перасохне, вымаем парасткі пры дапамозе бараны. Калі далей выкрыем іх ворывам глыбокім (20—25 см), тады не будуць мець яны шанцы на вегетацыю.

Калі ў часе ворыва выступае многа ападкаў, тады пырнік згортваем у кучкі. Гэта цэнная сыравіна для кампаставання. Ужыванне парасткаў пырніку да «латання» дзірак на дарогах не прыносіць ніякага пажытку, а наадварот — страты.

Аб'ём выконваемых прац у комплексе пасляжніўных работ бывае розны. Калі на даным полі маем намер пасеяць азімую расліну, тады мусім агранічыцца толькі да лушчэння і баранавання. А калі будзе пасеяна расліна вясною, тады павінны мы праводзіць пастаянныя працэдуры аж да перадзімовага ворыва.

Значэнне комплексу пасляжніўных работ вельмі вялікае. Можна яго падаць у некалькіх пунктах: перарванне параванне глебы, ачыстка поля ад пустазелля, паскарэнне раскладу пасляжніўных рэштак, супрацьдзеянне занікненню спраўнасці раллі, пакрыццё гною, або мінеральных угнаенняў.

На жаль, у нашым ваяводстве лушчэнне глебы выконвае ў сярэднім каля 40% сялян. У сувязі з гэтым паветы: Бельскі, Гайнаўскі, Сакольскі, або Дамброва знаходзяцца ззаду за паўночнымі паветамі, дзе амаль усе ПГР-ы выконваюць тыя працэдуры на ўсёй плошчы занятай збожжам.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

# У Беластоцкім музеі

У Беластоцкім музеі — ратушы на Рынку Касцюшкі адкрыты дзве выстаўкі. Першая — **міжваяводская выстаўка мастацтва**, другая — **забыткі Тыкаціна** — найбольш старога горада на Беласточчыне. Тыкацін гарадскія правы меў ужо на пачатку XV стагоддзя.

Выстаўка мастацтва прадстаўляецца вельмі багата. У ёй прынялі ўдзел мастакі з Беластока, Любліна, Жэшова і Кельцаў. Багацце колераў і мастацкіх напрамкаў: ад традыцыйных, да кубістычных. Выстаўка — вялікае поле для спрэчак над сучасным мастацтвам. І не толькі для спрэчак. Таксама вялікая магчымасць пазнаёміцца з новым у сучасным выяўленчым мастацтве. Яно, як усё новае, здабывае сабе прыхільнікаў нялёгка, але каб быць яго прыхільнікам ці ворагам, трэба яго ведаць і бачыць. Успомненая выстаўка стварае добрыя ўмовы для гэтага. (вл)



**На здымку: у новай краме ў Альхоўцы.**

# Яшчэ раз крамы

Л. МАЙСЕЮК

Праўда, песень пра іх яшчэ не складзена (гэта не значыць, што іх калісьці не складуць!) — аднак столькі аб іх гаварылася і пісалася, на столькі яны слаўныя і ў нас і за межамі нашага ваяводства, што проста няма адвагі браць за пяро і пісаць нанава. Ды на бяду ёсць на Гайнаўшчыне такі неспакойны чалавек, які вымушае раз-пораз вярнуцца да ўсім ужо вядомай тэмы. Кожны раз, зразумела, з новым акцэнтам. Зараз Гайнаўскі ПЗГС пад кіраўніцтвам таварыша Кастуся Майсені (ён гэты неспакойны чалавек) рэалізуе новы этап пабудоў. У гэтым месцы неабходным будзе адзначыць яшчэ раз, што справа папярэдніх вясковых крам закончана. Усе 67 вясковых крам аддадзены ўжо ў эксплуатацыю. А ўжо новая партыя, у ліку 26 крам, пабудова якіх пачалася ў месяцы красавіку гэтага года, гэта не вясковыя крамы, а крамы ў асадах, сядзібах Гмінных спулдзельняў. Іх будуецца ў Белавежы, Кляшчэлях, Нараўцы і Нарве. Характэрна тое, што на гэты раз удзел у грамадскіх працах пры пабудове крам прымаюць не сяляне (хаця, напрыклад, у Нарве працавалі члены спулдзельні прадукцыйнай з Васькоў) — а працоўныя адміністрацыйнага апарата, Гмінных спулдзельняў, ПЗГС з Гайнаўкі (які ўжо перапрацаваў 400 рабочых дзён) міліцыянеры, нават турысты, як гэта мелася ў Белавежы і працаўнікі Цэнтральнай рады спулдзельчасці з Варшавы! Зараз ідуць працы пры пабудове фундаментаў г.зн. у асноўным грамадскі чын, які шацуецца на пяць мільёнаў злотых (кошт агульны ўсіх пабудоў вынясе каля 25 мільёнаў злотых). Нефаховыя, або грамадскія працы — гэта звозка камення, выкап фундамента. І тут трэба пахваліць школьнікаў з мясцовай школы ў Кляшчэлях, якія да свае крамы сабралі да гэтай пары 50 кубаметраў камення! Прадугледжваецца, што так званыя нефаховыя працы будуць закончаны і ўжо ў чэрвені гэтага года ў суровым стане крамы будуць гатовы. Застанецца выканчэнне сярэдзіны (сталярка) у тынкі, дахі і ўжо на восень, як абяцае таварыш Майсеня, 26 новых крам стане ў эксплуатацыю.

Такім чынам на Гайнаўшчыне будзе налічвацца разам 93 прыгожанькія крамы, у якія толькі тавар падавай! І на гэтым ужо астаткова справа пабудовы крам закончыцца. Потым (нічога не паможа, яшчэ трэба будзе не раз пісаць аб вясковым гандлю на Гайнаўшчыне!) — пачнецца грунтоўная перабудова асноўнай гандлёвай базы Гмінных спулдзельняў. Гэта значыць пабудова ў сядзібах Гмінных спулдзельняў: пякарняў, масарняў, разлеўняў піва і садовай вады і інш. Затым пойдзе пабудова грамаднага павільёна, уласціва кажучы Гандлёвага дома ў Гайнаўцы, затым яшчэ можа школы Спулдзельцаў у Белавежы, затым... аднак — хопіць! Адчакаем, і аб планах наступным разам!

---

(Працяг са стар. 2)

— Схавай!

Кныш схаваў нож.

— Наказаў вам даставіць. Як, значыць, пароль.

Аскер дапытліва агледзеў лагерніка. Раптам Кныш заплакаў.

— Не сумнявайцеся, — прагаварыў нервова ён. — Не брашу, не здраднік я...

— Як зваць?

— Старшына Трафім Кныш.

— А дзе Аўдзееў?

— Там застаўся. Ён з калгаснікаў. А сюды майстравых бралі.

— Сустрэнемся заўтра. У цябе калі перапынак?

— У дзве гадзіны.

— Буду тут. Як убачыш, што знімаю акумулятар, ты адразу і выходзь. Паклічу даліць вадкасці, тады і пагаворым... І — аба мне ні гуку. Ні адзінай душы.

— Магіла!.. Таварыш гвардыі старшы лейтэнант, шкура тут адна ёсць. Стукае. Што рабіць?

— Сапраўды, стукае?

— Засеклі.

— Ціха прыбраць патрапіце?

— Патрапім.

— Прыбірайце, — цвёрда сказаў Аскер.

Кныш пачаў вылазіць з-пад машыны.

— Завод-та, ведаеце, які важны! — прагаварыў ён.

183

— Важны? — перапытаў Аскер, які быў заняты сваімі думкамі. — Які завод?

— Ды гэты самы. Фаустпатроны робяць. Танкі нашы паліць. Кажуць, фронт звыш паловы фаустаў адсюль атрымлівае. І снарады таксама. Праўда?

— Праўда.

— Дык чаго ж мы?..

— Слухай, — шапнуў Аскер, вылазячы таксама з-пад машыны, — можа здарыцца, да цябе падыдзе чалавек і скажа: «Тры і чатыры». Ты адкажы: «Чатыры і тры», і тады выконвай, што ён загадае. Зразумеў, Кныш?

— Так.

## МНЕ ПАРА

Некалькі разоў стараўся Аскер сустрэцца з Шубертам, але гэта ніяк не ўдавалася. Абставіны былі складаныя. Вайна падыйшла ўпрытык да граніц Германіі, і ў горадзе лютавала гестапа і СД. Шуберту давялося пакінуць сваю асноўную кватэру — у яе раёне былі заўважаны падазроныя асобы. За час, пакуль яму рыхтавалі новае надзейнае схованішча, ён перайшоў у домік ля чыгуначнага мосту.

І вось сёння Шталекер паведаміў Аскеру, што вечарам Шуберт чакае яго. Яны былі адны ў пакоі.

— Я павінен ехаць у Карлслуст, — сказаў Аскер.

— Калі?

184

— Як найхутчэй. Масква папярэджвае: у Карлслуст едзе вядомы контрразведчык генерал Зэйферт, шэф групенфюрэра Упіца. Ёсць даныя, што яны збіраюцца там сустрэцца. Гэта шмат можа праясніць.

— Маеце на думцы тайнік?

— Так.

— Бадай, маеце рацыю. А калі думаеце перабірацца?

— Відавочна, дзён праз два.

— Поездам?

— Так. Усё ўжо падрыхтаваў. — Аскер зрабіў паўзу. — Можна зрабіць так, каб кладаўшчык Крэбс далажыў у абвер аб маёй з ім гутарцы з прычыны зварачных апаратаў?

Шуберт пытальна паглядзеў на Аскера.

— Я вытлумачу, — сказаў Аскер. — Бачыце, вельмі карысна, каб контрразведка...

— Усё зразумеў. Трэба, каб яны ўпэўніліся, быццам вы «клюнулі» і шукаеце ў Остбургу?

— Так. Гэта можа адцягнуць іх увагу ад Карлслуста, аблегчыць нашу работу.

— Карацей, хочаце ўжыць іх жа зброю?

— А чаму б і не? Але гэта можна зрабіць толькі ў адным выпадку: калі Крэбс абсалютна надзейны.

— Надзейны, — сказаў Шуберт. — Сочым кожны яго крок. І ён жа так і не пазваніў наконт вас. А гэта было сур'ёзным выпрабаваннем, праўда?

— Зразумела.

185

 

# НЕ АДРУБАЛІ РУКІ...

(Працяг са стар. 1)

пяцьдзесят злотых кожная. Найбольш усялякіх спраў выходзіла, як не на трэці дзень Вялікадня дык на Вербніцу або яшчэ які-лень прысвятак. Яно то праўда, што пры свяце гаспадар мае больш часу, але ніхто якасці не квапіўся, каб палепшыць сітуацыю і выбраць новае праўленне (выбіраецца штогод). Прыедуць з павета, распішуць агульны сход на такі-то-такі дзень, ды што з гэтага ўсяго? Праўда, усе члены падпішуцца пад павесткаю, але на сход не прыходзяць. Кумы паталкуюць з павятовым госцем аб тым, што трактарыста і сам чорт не дапільнуе, ды канцы ў воду.

Мяшок развязаўся нядаўна, калі ў павеце далічыліся каля сарака тысяч злотых страт у Сакоўскім гуртку за 1962 год. Прытым, усю зіму прастаяў на рамонце ў Бельскім ПОМ-е трактар, якога не было за што выкупіць.

Кумы не адразу паддаюцца паніцы. Шаховіч спакойна выкладвае знерваванаму начальніку, што, маўляў, перасалілі з гэтымі стратамі, бо дарэчы, было б адняць ад іх значныя сумы на рамонтны фонд, амартызацыю і т.п. Такім чынам, страшная «саракоўка» паменшае да палавіны...

— Ну, і не забывайце, што маем мокрыя землі. Дажджу наліло летась бязмеры... Былі прастоі...(?)

Аднак на сам успамін пра Лісоўскага падалі ўсякія тлумачэнні. А Паўлік, кажуць, прыгразіў:

— Мяне рушыце — самі патопіцеся!

Давялося ўжыць старога, як наш свет белы, выпрабаванага спосабу: запаіць уладу! Хатніх грошай шкада... І тут прыдаўся Санька Ахрэмюк. На яго імя выпісана кароценькі рахунак на 485 зл. за рамонт малатарні і кансервацыю машын. Санька, хаця і зроду не чапаў ніякіх малатарняў, чыркнуў свой подпіс пад гэтакім рахунчыкам, і грошыкі хутка пераўтварыліся ў цыбатыя літроўкі гарэлкі. Запахла смажанінаю. Словам: рай!

Ахрэмюку, як чалавеку нейтральнаму, выпала яшчэ адна няўдзячная роля: спрасіць на пачастунак гурткоўцаў. Вядома, з пустымі рукамі не прыдуць. Але яны ўвогуле не папрыходзілі. Нядобра. Тым горш, што і павятовых «рыб» не ўдалося схапіць на кручок, не лічачы пару «плотак», якія і так нічога не значылі, і ні ў чым не дапамаглі.

Кумы зусім апусцілі рукі. Перасталі пераймацца, што тэхніка іржавее пад голым небам, псуецца.

— Што мае быць, тое будзе.

* * *

Настала вясна 1963 года. Сельскагаспадарчыя гурткі ў Пасынках, або ў такім Зубаве, вунь, як паставілі на ногі вясковыя гаспадаркі! Проста, зайздрасць бярэ чалавека...

Тым разам не прышлося доўга спрашаць сакоўцаў на сход. З'явіліся. Адбылася гарачая дыскусія — аж занадта гарачая. Перавыбралі новае праўленне гуртка.

Самі ладзілі, дзе можна, машыны. Без рахункаў. Горбаю ездзілі ў Бельск афармляць справы. Без дэлегацый. Усе сочаць за гуртковымі справамі. І тыя, што належаць да гуртка, і тамтыя, што думаюць «запісацца».

Стары Лазовік любіць пагаварыць.

— З нашым гуртком было так, як з тым сынам, што на злосць бацьку хацеў адрубаць сабе руку!...

**КАСТУСЬ ЯНКОЎСКІ**

— Значыць, прынцыпіяльна вырашылі. Але я яшчэ пагавару са Шталекерам.

— Добра. — Аскер змоўк, пастукаў па стале пальцамі. — Месяц назад вы сказалі, што рыхтуеце ўзрыў «Ганса Бэмера». Завод будзе знішчаны?

— Абавязкова. Аперацыю даручылі Крыгеру.

— За чым затрымка?

— Бачыце, ёсць адна акалічнасць — непазбежна загіне вялікая колькасць рабочых і палонных.

— Ахвяры не абавязковы.

Шуберт падняў галаву.

— Не абавязковы, — паўтарыў ён. — Дык апрача завадскога бомбасховішча, ёсць непадалёк другое?

— Так, за варотамі, метрах у пяцістах.

Аскер задумаўся.

— Я сёе-тое праверу, падлічу, — сказаў ён. — Здаецца, усё будзе ўпарадку! Я яшчэ падумаю, а тады ўсё выкладу Крыгеру, калі, зразумела, вы не маеце нічога супраць.

Затым Аскер паведаміў Шуберту аб з'яўленні ў Берліне і Остбургу Фрэда Тэдэра, аб сустрэчы яго з генералам абвера Лахузенам і групенфюрэрам Упіцам.

— Ён і цяпер у Остбургу? — спытаў Шуберт.

— Быў. А сёння, здаецца, паехаў. Паехаў або ад'язджае. Разам з Упіцам. — Аскер устаў. — Ну, мне пара.

(Працяг за тыдзень)

186

# ВЫХАВАННЕ ПРАЗ ПРАЦУ

(Працяг са стар. 1)

— Арганізуем калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Такіх калектываў дзейнічае зараз у нашым ваяводстве 863 і налічваюць яны амаль 7800 членаў. Кожны калектыў мае дакладна апрацаваную двухгадовую праграму тэарэтычных і практычных заняткаў. Сярод калектываў штогод праводзіцца конкурсы на прыкладную гадоўлю цялят, свіней і хатніх птушак, а таксама конкурсы вырошчвання маласпаўсюджаных, але высокакарысных сельскагаспадарчых культур. Калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі арганізуюць і вядуць вясковыя клубы-кавярні. Яны цесна супрацоўнічаюць з сельскагаспадарчымі гурткамі і іх уладамі. Наогул стараемся, каб гурткі нашай арганізацыі непасрэдна супрацоўнічалі з усімі арганізацыямі і ўстановамі, якія дзейнічаюць у вёсках. Яны маюць грошы, а мы людзей, энергію і сілу. Супольна даб'емся лепшых рэзультатаў. Дзеля гэтага члены саюза вясковай моладзі ў залежнасці ад сваіх схільнасцей аб'ядноўваюцца ў гуртках, так сказаць спецыялістычнага характару ды супрацоўнічаюць з блізкімі сабе па спецыяльнасці ўстановамі і прадпрыемствамі.

**— Важнейшай дзялянкай сельскагаспадарчай культуры з'яўляецца барацьба з пустазеллем. Ці сярод гэтых спецыялістычных гурткоў ёсць таксама такія, што займаюцца і гэтым?**

— Зразумела. Яны ў нас называюцца брыгадамі аховы раслін. У Беластоцкім ваяводстве дзейнічае іх 130. Прылады ды хімікаты атрымоўваюць яны ад ГС-аў. Знішчэнне шкоднікаў і прапалку пустазелля праводзяць хімічным метадам ды не толькі ў сябе. З іх наогул можа скарыстаць кожны гаспадар.

**— Другі краёвы з'езд сельскагаспадарчых гурткоў сярод асноўных заданняў на бліжэйшыя гады паставіў як пільную справу прымяненне ў кожнай гаспадарцы «аграмінімум». Думаю, што Саюз вясковай моладзі не будзе абыякавым на гэты заклік.**

— Тое, што другі сельгасгурткоўскі з'езд прапануе зараз, мы ўжо раней намагаліся рабіць. Усе ж нашыя мерапрыемствы былі і ёсць накіраваны на павышэнне сельскагаспадарчай асветы. Дзейнічаем мы аднак сярод моладзі. Амаль палавіна членаў нашай беластоцкай арганізацыі з'яўляецца юнакамі ва ўзросце да 20 год. Яны, хаця ўжо і прысвоілі адпаведныя веды, не маюць яшчэ непасрэднага ўплыву на кіраванне гаспадаркай. Залежаць ад бацькоў. Таму мы асаблівую ўвагу звяртаем на тых членаў Саюза вясковай моладзі, якія ўжо гаспадараць самастойна. Ёсць іх 538. Аб'ядноўваюцца яны ў Клубы маладых сялян. Гэтыя клубы праводзяць адпаведную сельскагаспадарчую адукацыю. Гутаркі ў клубах праводзяць дасканалыя спецыялісты з вопытна - даследчых навуковых сельскагаспадарчых станцый, якія існуюць у нашым ваяводстве. Гэтыя маладыя гаспадары без ніякіх абмежаванняў могуць непасрэдна прымяняць здабытыя веды ў сваіх гаспадарках. Ёсць іх, што праўда, мала ў радах нашай арганізацыі, але канкрэтны прыклад і добрыя вынікі дзейнічаюць далёка лепш пераканаўча, чымсьці пустыя словы.

**— Бягучы год з'яўляецца Годам Беластоцкай Зямлі. Ці Саюз вясковай моладзі ў сувязі з гэтым мае нейкую сваю ўласную праграму?**

— Год Беластоцкай Зямлі адзначаем мы грамадскай працай у карысць насельніцтва Беласточчыны. Вось кінулі былі мы лозунг: члены саюза вясковай моладзі будуюць аграномоўку — помнік 1000-годдзя польскай дзяржавы. Заклік перавысіў усе нашыя спадзяванні. У спаборніцтве за добраахвотны збор складчын на пабудову агранамоўкі — помніка вылучыліся два паветы: Бельскі і Аўгустоўскі. Абодва яны сабралі звыш 100 тысяч злотых. Таму зараз замест адной агранамоўкі - помніка будаваць будзем дзве — у абодвух гэтых паветах. Члены Саюза вясковай моладзі прымаюць актыўны ўдзел пры пабудове дарог, святліц, крамаў, пажарніцкіх раміз, школ... Не пераўвялічваючы магу сказаць, што без удзелу членаў нашай арганізацыі на вёсцы нічога не робіцца. Актыўнасцю ў грамадскіх чынах асабліва адзначыўся Гайнаўскі павет. На 9 узнагарод, якія Галоўнае праўленне Саюза прызначыла за найлепшыя дасягненні гурткоў ЗМВ у грамадскіх чынах, дзве ўзнагароды павандравалі ў Ласінку і Жукі, Гайнаўскага павета. Гурток у Ласінцы атрымаў тэлевізар, а гурток у Жуках радыёпрыёмнік.

Сярод вясковай моладзі арганізуем таксама добраахвотныя атрады працы. Працуюць яны пры пабудове дарог і меліярацыі альбо па загаду мясцовай ГРН выконваюць кожную іншую працу. Частку зробленых грошай члены атрадаў прызначаюць на супольныя грамадскія мэты. Такіх атрадаў дзейнічае зараз у нас каля ста.

**— Ці памагаюць вам настаўнікі?**

— Ды яшчэ як! Непасрэдна членамі нашай арганізацыі ёсць 700 настаўнікаў. Гэта проста жамчужыны ў нашай арганізацыі. Працуюць яны ахвотна. Не чуў, каб без асаблівых прычын адкідалі абавязкі, якія мы на іх накладаем. Праз удзячнасць штогод арганізуем ім культурны і выгодны адпачынак. Сёлета ў Сопаце будзе адпачываць каля 80 асоб вясковай інтэлігенцыі, а ў Старыя Юхы ля Элку паедзе на адпачынак каля 150 асоб настаўнікаў, якія вучаць у школах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі.

**— І больш ужо ніхто не скарыстае з адпачынку ў вашых летніх лагерах?**

— Вельмі ж тады пакрыўдзіліся б другія актывісты нашай арганізацыі. Арганізуем для іх 9 іншых лагераў летняга адпачынку. Скарыстае з яго звыш 1000 членаў, якія асабліва адзначыліся актыўнасцю ў працы.

Гутарыў **В. РУДЧЫК**



# БЛІЖЭЙ ЖЫЦЦЯ

Для выгоды вучняў і настаўнікаў Бельскі беларускі ліцэй багата абсталяваны шматлікімі мадэлямі розных машын. На першым здымку бачым заняткі вучняў у фізічным кабінеце. Яны знаёмяцца з тайнамі пабудовы рухавіка ўнутранага згарання.

У дзяўчат асаблівае зацікаўленне выклікае швейная майстэрня (здымак 2). Тут кожная з іх у час палітэхнічных школьных заняткаў здабывае ўмеласці краўчыхі.

фота **В. Рудчык**



# ДЛЯ РУК і ГАЛАВЫ ЖАНЧЫНЫ

Кааператывы працы (спулдзельчасць працы) — установа з вялікімі перспектывамі. Гэта — паслугі. А іх у нас трэба і трэба. Спулдзельчасць працы ідзе цяпер іменна ў кірунку паслуг і асабліва ў кірунку арганізавання ўслуговых пунктаў для мястэчак і вёсак.

У бягучым годзе адбудзецца III краёвы з'езд дэлегатак жанчын, якія працуюць у кааператывах працы. Чаму жанчын, не ўвогуле ўсіх? Трэба ведаць, што спулдзельчасць ужо цяпер дае працу тысячам жанчын. У Беластоцкім ваяводстве — 110 тысяч, што складае 26% усіх працуючых у спулдзельчасці. Лік жанчын будзе расці разам з развіццём дзейнасці кааператываў працы.

Адна з перадз'ездаўскіх тэз закладае: да канца 1965 года арганізаваць у кожным павятовым горадзе хімічную пральню, а ва ўсіх мястэчках — пункты прымання да хімічнага прання. Гэтую вялікую і важную работу ўскладаецца на адказнасць самых жанчын, а ведаючы іх, можам спадзявацца, што за 2—3 гады будзем сціраць лёгка і добра, без балей і цяжкай працы.

За гэты ж самы час паўстане многа новых цырульняў. Закладаецца, што ў кожнай грамадзе мае адкрыцца такі пункт. Гэта таксама для жанчын, каб маглі прычасацца добра і модна, а не насіць старамодныя бублікі. (вл)



 

# НОВЫЯ КАСМАНАЎТЫ



Толькі мы закончылі друкаваць дзённік касманаўта К., як увесь свет захваляваўся ад рэкорднага палёту новай пары савецкіх касманаўтаў. Гэтым разам у космас узнялася і жанчына.

Вось яны, новыя героі Космасу.

Валянціна Церашкова ў гутарцы з першым касманаўтам Юрыем Гагарыным перад сваім палётам у космас.

Валеры Быкоўскі — савецкі касманаўт №5 са сваёй жонкай у дзень шлюбу.



## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ТАЙНАЯ ВАЙНА

У часы вялікіх геаграфічных адкрыццяў наймацнейшымі дзяржавамі лічыліся Іспанія і Англія. Цяперашняя Аргенціна, Чылі, Перу, Венесуэла, Мексіка з'яўляліся тады яшчэ іспанскімі калоніямі. Гаварылася, што ў іспанскім каралеўстве сонца не заходзіць...

Англія зайздросным вокам паглядала на свайго канкурэнта. Выбухалі яўныя войны. Але тайная вайна паміж Англіяй і Іспаніяй не заціхала.

* * *

Ноччу на 15 лютага 1579 года ў сталіцы іспанскай калоніі Перу, у горадзе Ліма, усіх агарнула паніка. У памятную ноч, паміж дзесятай і дванаццатай гадзінай, недалёкі порт Кальяо быў разбуджаны дзікімі крыкамі. Узнялася трывога.

Дайшла чутка: — Паявіліся англійскія піраты! Як жа яны сюды трапілі? Калі? Праз Панаму? Не, немагчыма! Там дасканалая абарона. Праз Магеланаў праліў? Ён жа закрыты для плавання ўжо ад дваццаці год!

Справа ў тым, што ад часу адкрыцця ў 1520 годзе праліва Магелана — з усходу на захад прайшлі толькі некаторыя іспанскія караблі. Аднак спробы прайсці яго ад захаду на ўсход канчаліся катастрофамі. Ад 1557 года праліў увогуле лічыўся закрытым для навігацыі.

Тым часам піраты бушавалі. Хутка і лоўка праводзілі набегі. Награбілі горы серабра і золата. Атакавалі парты Ціхага акіяна аж па паўночную Мексіку. Быў гэта Фрэнсіс Дрэйк. Загаварылі аб ім у каралеўскіх дварах Еўропы. Англійскай каралеве Елізавеце і Дрэйку ўся гэта гісторыя была менш таямнічай. Для іх усё адбывалася значна прасцей: гэта быў добра прадуманы і неспадзявана праведзены рэйд супроць замарскіх уладанняў Іспаніі. Так рэалізавана адну з форм тайнай вайны, якая вялася без аб'яўлення супроць караля Філіпа II іспанскага. Каралева Елізавета паказала сябе тонкім і ўмелым майстрам падобных спраў. Наўрад, ці ў часы яе царавання ў Англіі быў болей гарачы ненавіснік каталіцкай Іспаніі, чымсьці Дрэйк, сын пратэстанцкага вікарыя. Жыў ён у эпоху небяспек, калі пірацтва з'яўлялася адзіным заняткам для людзей яго тыпу — рыцара, джэнтльмена да мазга касцей. Будзь іншая эпоха, а Дрэйк напэўна застаўся б паважаным адміралам.

Каварная і непранікнёная каралева Елізавета афіцыяльна рабіла выгляд, што не падабаюцца ёй дзёрзкія пачыманні Дрэйка, але напраўду была задаволена ім. Прытым, гэты малады і прыстойны пірат дапаўняў бліскучую світу закаханых у ёй мужчын, як — Лесейстэр, Вальтэр Рэлей, граф Эсекс... Від тых страсных маладых людзей, якія адзін перад другім пераўзыходзілі ў страшнай адвазе супроць Іспаніі, цешыў Елізавету не толькі, як каралеву, але і як жанчыну. Кожны раз, калі вярталіся з рабункаў іспанскіх калоній, яна прымала іх у сябе. Надзявала цэнныя каменні, якія прывозілі і дарылі ёй. Любіла слухаць пышныя расказы пра смелыя і даходныя набегі. Маладцы выходзілі з каралеўскіх аўдыенцый поўныя энтузіязму, зачараваныя сваёй каралевай, гатовыя на найбольш шалёныя ўчынкі, каб толькі задаволіць яе. Адно прыветнае паляпанне па плячы, адно ласкавае яе слова, з'яўляліся ім найвышэйшай узнагародай за перанесеныя цяжкасці і небяспекі.

Дрэйк падрыхтаваў пяць караблёў, навербаваў 162 чалавекі і 13 снежня 1577 года выплыў з Плімута. Каб збіць са следу шпіёнаў Філіпа II, ад якіх аж кішэлі англійскія парты, пусціў слыхі, што флот накіроўваецца ў Александрыю. Праз месяц эскадра знаходзілася ўжо ў Рыо — дэ ла Плата, улюбёнага месца англійскіх піратаў. Тут адноўлена запасы салодкай вады і дроў.

Пачалі грабіць узбярэжжы Аргенціны. 6 верасня 1578 года Фрэнсіс Дрэйк у вялікай таямніцы адважна фарсіраваў Магеланаў праліў, і выплыў з трыма караблямі на воды Ціхага акіяна. Два іншыя караблі адправіў ён раней са здабычаю ў Англію. Раптам закруціў страшэнны ўраган, які часта здараецца ў гэтых месцах — загубіў адзін карабель, а другі адкінуў назад, у Атлантычны акіян. Застаўся карабель — «Пелікан» празваны «Залатой ланю».

Англійскі карсар разбіваў іспанскія караблі, сустрэтыя на шырокіх ціхаакіянскіх шляхах. Пятага снежня т.г. раптоўна паявіўся ў Вальпараіза. Там узяў на абардаж карабель кормчага Эрнанда Ламера, а затым, выкарыстаўшы паніку, начыста абабраў горад. Між іншым, здабыта масу залатога пяску вартасцю 25.000 пезет, які быў прызначаны для адпраўкі каралю Філіпу II.

Тактыка нечаканага з'яўлення аказалася правільнай. У 1580 годзе Дрэйк вяртаўся ў Англію абаплыўшы вакол свету другім пасля Магелана. Бяспрыкладнае плаванне Фрэнсіса Дрэйка ў Ціхі акіян не было апошнім. Неўзабаве наладзіў ён карсарскі рэйд у Карыбскае мора. Ды тут не пашчаслівілася яму. Прабаваў захапіць Панаму, але быў разбіты іспанскім губернатарам донам Алонса дэ Сатамайор. Дрэйк памёр на сваім караблі ад дызентэрыі. 7 лютага 1596 года каманда карабля апусціла яго труп, залітаваны ў алавяную труну, у воды бухты Партабела, на дне якой спачывае ён і па сённяшні дзень... (а-ся)

Глядзі: — Праліў Дрэйка. (карта Паўднёвай Амерыкі).

# ЧАЛАВЕК БАЧЫЦЬ... СКУРАЙ

Вучоныя даўно выявілі ў ніжэйшых арганізмаў здольнасць успрымаць скурай светавыя раздражненні. А ці не мае такой здольнасці скура чалавека? Савецкі фізік Б. П. Грабоўскі з групай вучоных правёў серыю доследаў. У зацемненым памяшканні на вочы ўдзельнікаў эксперыменту (сярод іх былі і сляпыя) надзявалі шматслойныя цёмныя павязкі. І людзі вызначалі напрамак праменння ліхтарыка, колькасць асветленых пальцаў на руцэ. Уначы на вуліцы гэтыя ж людзі ўстанаўлялі колькасць і размяшчэнне вулічных ліхтароў.

Удалося ўстанавіць, што святло ўздзейнічае на скуру лба і слізістую абалонку рота. Мацней гэта з'ява прыкметная ў маладых людзей і асабліва ў жанчын. Цікава, што ў людзей з атрафіраванай скурай гэта якасць прытуплена.

Здольнасць скуры чалавека ўспрыймаць святло, — расказвае Б.П. Грабоўскі, — можна трэніраваць практыкаваннямі. Вядомыя доследы з Розай Куляшовай яшчэ раз пацвярджаюць здольнасць чалавека да «б чання» без дапамогі вачэй.



# ДАВАЙЦЕ НЕ НЕРВАВАЦЦА

Некаторыя лекары кажуць нервовым людзям: вы не павінны нервавацца...

Такія лекары робяць памылку не дадаючы да сваёй парады слова —



«дробязямі». Разыходзіцца пра тое, каб не нервавацца ад абы чаго, без істотнай прычыны. Бо, шчыра гаворачы, цяжка сабе ўявіць чалавека, які б нідзе і ніколі не нерваваўся! Быў бы гэта чалавек, якому чужое: любоў і нянавісць, захапленне і гнеў. Быў бы гэта чалавек абыякавы да ўсяго на свеце.

Найболей небяспечным здароўю з'яўляецца беспадстаўная і частая нервовасць. Яловыя і безупынныя выбухі знішчаюць арганізм, бы тая кропля вады, што прабівае скалу. Тады ўзнікаюць неўрозныя хваробы і парушаецца кроваабарот. Таму кожную жыццёвую справу трэба навучыцца бачыць яе ва ўласцівых размерах, і не падацца злосці з-за глупстваў. Хтосьці запытае, як гэта зрабіць?

Вось мы знерваваліся. Агортвае нас гнеў. Абураемся. Твар то бялее, то чырванее. Дрыжаць рукі. Яшчэ секунда і пачнецца... Але стоп! Падумайма, ці прычына настолькі важная, каб аж гэтак нервавацца?

Трэба ўстанавіць сабе, як правіла: не пекліцца адразу, з гарачага. — Не будзь у гарачай вадзе купаны! Хвіліну, дзве хвіліны прыпыні сябе і падумай — чаго я так нервуюся? Ці гэта справа вартая маіх нерваў?! Га?

Такім спосабам можна пачаць загартоўку нерваў. Старайцеся «адарвацца» на пэўны час ад той справы, якая вас знервавала. Лепш паслухайце музыку або памайструйце дзе-лень, паглядзіце ў акно і думайце аб нечым прыемным альбо смачным. Таксама добра ёсць 2—3 разы ў дзень свабодна рассесціся і паўтарыць у думцы: «я штораз спакайнейшы, не гарачуся і не шалею, не пераймаюся глупствамі»...

Урэшце, пара выясніць памылковы погляд, што нібы ў выпадку гневу здаравей ёсць «выбушвацца» чымсьці паўстрымацца. Няпраўда. Такое «бушаванне» стварае новыя прычыны да злосці. І гэтак без канца.

Адзінае выйсце, гэта паўстрымоўваць сябе. Паўстрымоўваць ды яшчэ раз паўстрымоўваць!

а-ся

# НОГІ ПАЦЕЮЦЬ. МАЗАЛІ

Гэта бяда і яшчэ якая, ведае толькі той, каму пацеюць. Іншыя таксама. Вядома — непрыемны запах і асабліва летам. Значыць, якраз на часе будзе парада, што рабіць, каб ногі не пацелі.

Штодзень рана націраць ногі вострaю рукавіцаю, змочанай у алкаголю. Потым нацерці іх камфаровым крэмам (можна купіць у кожнай аптэцы і драгерыі), а калі скура сухая, касметычным малаком (таксама ў аптэках і драгерыях).

Як збавіцца ад мазалёў?

Рэгулярна смараваць ёдам змешаным са спіртам. Потым ногі вымачыць, мазалі, калі не адпалі, лёгка пацерці пумэксам (шорсткі камень).

вл.

## ГС ТВАРАМ ДА ВЁСКІ

ГС-ы штораз больш уваходзяць у жыццё вёскі. Даюць палёгку ў працы, вучаць, нясуць культуру. Некалькі даных з нашага ваяводства: 24 маладзёжныя клубы-каварні, 50 брыгад аховы раслін, 9 пазычальняў хатніх прылад, 21 святліца, 34 мастацкія калектывы. У лік перадавых залічаюцца клуб-каварня ў Мілейчыцах і святліца ГС у Гайнаўцы. (вл)




Дарагое **Сэрцайка!**

Маю 20 год. Паўтара года таму я пазнаёміўся з Жэняй. Яна мне падабалася, а я ёй. Мы цяпер хацелі б пажаніцца. Прычына такая: яна жыве ў цяжкіх абставінах. Яна толькі з маці на гаспадарцы. Але і тут бяда, бо Жэня не мае яшчэ 18 год. А гаспадарка штораз больш і больш нішчыцца. Таму прашу, дарагое Сэрцайка, парай, што нам рабіць, каб узяць шлюб.

**Міця В.** з вёскі Д.
Гайнаўскага павета

Дарагі **Міця!**

На жаль мая парада не такая, якой ты з Жэняй чакаеце. Не раю і яшчэ раз не раю вам цяпер жаніцца. Вы ж такія маладыя, патрабуеце яшчэ апекі бацькоў, а раптам задумалі самі быць бацькамі. Вашае каханне яшчэ не сур'ёзнае, і таму нельга ўжо цяпер звязвацца на ўсё жыццё. А яно ж перад вамі вельмі доўгае.

Пішаш, што нішчыцца гаспадарка. Ці ж можна жаніцца для гаспадаркі? Калі хочаш, можаш і так памагаць ім, а і іншае выйсце ў апрацоўцы гаспадаркі можна знайсці. Ці ж мала такіх самотных жанчын на гаспадарцы, якія якасьці радзяць і нядрэнна. Ты маеш толькі 20 год. Якраз кандыдат у армію. І які ж з цябе памочнік будзе? Пакінеш дома маладую жонку, сам будзеш далёка, і ці ты пераконаны, што табе або Жэні ніхто іншы не закруціць у галаве? Што тады будзе? А бывае ў жыцці ўсяляк. Вы можаце пачакаць некалькі год, гэты час на карысць вам выйдзе. Пераканаецеся, ці сапраўды кахаецеся. Раю падумаць над гэтым, разважыць і пераканаць Жэню ў слушнасці маёй парады.

А на шлюб можа даць дазвол толькі і выключна суд.

СЭРЦАЙКА

## Кожынская крама

Зімою 1963 года прыязджалі працаўнікі архітэктуры і санітарнай камісіі з Бельска-Падляшскага да вёскі Кожына на агляд пляца пад будову крамы і прызналі, што найлепшы пляц пад краму каля школы, грамадскі. Потым прыехаў прэзэс Гміннай спулдзельні з Бельска Падляшскага Анішчук, які на сходзе аб'явіў, што ў гэтым годзе ў Кожыне пачнецца будова крамы. Сяляне гаварылі, што ёсць у нас яшчэ пляц Цярэнція Хіліманюка для расходных дарог, мо' лепш надаваўся б пад краму. Але прэзэс сказаў, што мы аглядалі гэты пляц і ён не надаецца на будову крамы таму, што знаходзіцца ў нізкім месцы, каля рэчкі Локніцы, вясной і ў дажджлівае лета заліваецца вадой. Сяляне згадзіліся прадаць пляц для Гміннай спулдзельні і зрабілі ўмову. Прэзэс запрапанаваў прывезці па 1 м³ жвіру на будову крамы. Сяляне згадзіліся. Вясною з Бельска прывезлі цэглу, цэмент і дошкі на пабудову крамы. Сяляне сабраліся ў нядзелю 19.V., прывезлі жвіру. У суботу 25.V. зрабілі выкап на фундамент. Сяляне не трацілі надзеі, што не сягоння дык заўтра будова крамы распачнецца. Можа гэта так і было б, каб не працаўнік грамадскай рады ў Пасынках Тынявіцкі Уладзімір, які патрапіў устрымаць пабудову крамы. Тынявіцкі У. прапануе Гміннай спулдзельні, што будова крамы павінна адбыцца на пляцы Хіліманюка. Аднак кожны селянін вёскі Кожына ведае, што толькі каля школы крама можа быць пабудавана. А з другога боку знаходзілася яна паміж нашымі пасёлкамі (Кожына дзеліцца на два пасёлкі), а таксама бліжэй было б сялянам з вёсак Ступнікі і Козлікі, якія не маюць сваёй крамы. І вось будова крамы ўстрымана.

**Станіслаў Нівінскі**
Кожына

## АБ'ЯЗДОВАЕ КІНО Ў ЛУЦЭ

15 чэрвеня вёску Лука наведала аб'яздовае кіно з Беластока. Кіно прыехала ў $9^{00}$ гадзін раніцы, а ў $10^{00}$ — $12^{00}$ гадзін высвятляўся фільм для дзяцей п.з. «Замак». Потым у $19^{00}$ гадзін пачаўся фільм польскай прадукцыі для дарослых п.з. «Квецень» і «Аб маім прыяцелі». У кіно прыйшло шмат моладзі і старэйшых з Лукі. Кіно працягвалася да першай гадзіны ночы.

**Янка Бура**
Тарнопаль

## „ЛЯВОНІХА" Ў ЛУЦЭ

14 чэрвеня 1963 года вёску Лука наведала беларуская эстрада «Лявоніха». Канцэрт пачаўся ў $19^{00}$ гадзін і адбыўся ў зале пачатковай школы ў Луцэ. Білеты былі вельмі танныя: па 5 зл. і па 3 зл., і таму на «Лявоніху» прышлі амаль усе сяляне, моладзь і дзеці з Лукі, а таксама многа было з Тарнопаля. Усе хацелі пачуць і пабачыць на сцэне сваё роднае беларускае слова. Праграма «Лявоніхі» была багатая. У часе кожнага выступлення «Лявоніхі» ў зале чуваць было смех і гарачыя воплескі гледачоў. Толькі ў час выступлення Валі Сянкевіч і Васіля Кардзюкевіча з песняй «Песня пра Беласточчыну» ўсе гледачы сядзелі ціха. Песняй «Бывайце здаровы, жывіце багата» закончылася мастацкая праграма эстрады «Лявоніха».

На развітанне гледачы горача дзякавалі эстрадзе за выступленне і вельмі прасілі артыстаў, каб у найбліжэйшым часе зноў наведалі Луку з новай праграмай.

**Янка Бура**
Тарнопаль



## КІНО

**Праграма на 8 — 14.VII.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Przygody Munchhausena" (czeski) 9—11. „Na białym szlaku" (polski), 12—14.

**Кляшчэлі**
„Rok przestępny" (radz.), 9—11. „Kolorowe pończochy" (polski), 12—14.

**Навасады**
„Majowe gwiazdy" (czeski), 13—14.

**Нараў**
„Pierwszy lot w Kosmos" (radziecki), 10—14.

**Нараўка**
„Pan i Astrolog" (czeski), 10—14.

**Чаромуха**
„Ostatni świadek" (NRF), 9—11. „Na białym szlaku" (polski), 12—14.

**Чыжы**
„Dziewczyna z dobrego domu" (polski), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Futrzany gang" (angl.), 10—14.

**Бранск**
„Manekin Pis" (holenderski), 9—11. „Opowieść o prawdziwym człowieku (radz.), 12—14.

**Орля**
„Ukryte skarby" (czeski), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Orkiestra wojskowa" (węgierski), 9—11. „Zmartwychwstanie" s. II (radz.), 12—14.

**Міхалова**
„Królewskie dzieci" (NRD), 9—11. „Dramat w Kosmosie" (radz.), 12—14.

**Супрасль**
„Zamek z bajki" (NRD), 9—11. „Niewidomy muzyk" (radz.), 12—14.

**Чорна Беластоцкая**
„Gdy drzewa były duże" (radziecki), 9—11. „Jutro przestaniesz umierać" (radz.), 12—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**
„Dama z perłami" (NRD), 9—11. „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 12—14.

**Мілейчыцы**
„Kolorowe pończochy" (polski), 9—11. „Zmartwychwstanie" s. II (radz.), 12—14.

**Нурэц**
„Lata bez marzeń" (węgierski), 9—11. „Czas rozłąki" (radziecki), 12—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Янаў**
„Dwie strony medalu" (angl.), 9—11. „Głos z tamtego świata" (polski), 12—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Komedianty" (polski), 13—14.

У мясцовасцях Райск, Гродзіск, Крынкі, Сухаволя, Шудзялова і Ліпск у у днях 8 — 14.VII. фільмы высвятляцца не будуць.

# ТАДЭУШ ВРУБЛЕЎСКІ

(Працяг са стар. 2)

Маскве. Будучы кандыдатам да І-шай Думы, звярнуўся з адкрытым пісьмом да выбаршчыкаў г. Вільна. У гэтым пісьме ён пісаў: «Лічачы сябе грамадзянінам Літвы, пры разглядзе палітычных і грамадскіх пытанняў зыходным пунктам бяру інтарэсы ўсіх карэнных жыхароў нашай краіны — палякаў і літоўцаў, беларусаў і яўрэяў, без розніцы веравызнання і нацыянальнасці».

### III. УДЗЕЛ ВРУБЛЕЎСКАГА Ў ПАЛІТЫЧНЫХ ПРАЦЭСАХ. АБАРОНА БЕЛАРУСАЎ.

Вядомасць і славу на ўсю расійскую імперыю прынесла яму прамова на працэсе капітана Пятра Шмідта.

Руская моладзь завучвала гэту прамову Врублеўскага напамяць. Палітычныя вязні плакалі над ёй у казармах. Врублеўскі усынавіў адзінае дзіця засуджанага на смерць капітана Шмідта. Усё гэта разам узятае асабліва садзейнічала незвычайнай яго папулярнасці.

У Вільні Врублеўскі ўдзельнічаў у шматлікіх асветных справах, у працэсах за тайнае польскае навучанне, або нелегальныя школы, у працэсах друку і выдавецкіх фірм, у справах за прыналежнасць да нелегальных левых арганізацый, за забастоўкі, за актыўнае супрацоўленне ўладам, за сацыялістычную прапаганду. Часта выязджаў у Пецярбург, Маскву, Кіеў, Севастопаль, Рыгу, выступаючы адвакатам у палітычных працэсах перад ваеннымі і цывільнымі судамі.

У перыяд першай сусветнай вайны Врублеўскі знаходзіцца ў Вільні, стараецца захаваць і расшырыць сваю бібліятэку. Адначасова ў цэлым шэрагу публікацый праводзіць лозунг неабходнасці згоднага супрацоўніцтва і добрага сужыцця ўсіх нацыянальнасцей, засяляючых Вільню і Літву. З тых самых поглядаў заняцце Вільні ў 1920 годзе польскімі войскамі генерала Люцыяна Шэлігоўскага ён называе ганебнай польскай акупацыяй, якая парвала ўсякія праўныя трактаты, кодэксы і ўмовы. Востра крытыкаваў гэты пастыдны і шкодны для Польшчы ўчынак. Пакуль польскасць душылася і праследавалася, Врублеўскі бараніў яе, але да трыумфуючай польскасці, выкарыстоўваючай беларусаў, літоўцаў, яўрэяў, адчуваў агіду. Бліжэй яму былі інтарэсы праследваемых. Врублеўскі бараніў справы нацыянальных меншасцей у наступных сваіх публікацыях:

1. «Народ і нацыянальнае самаакрэсленне». Вільня 1912. Выпіска з Гадавіка Таварыства Сяброў Навукі ў Вільні, том VI.
2. Праект гарадскога ўстава для Літвы. Вільня 1919.
3. «Аб «тайных школах». Выпіска з «Przeglądu Wileńskiego». Выдана пад псеўданімам Т. Вароніч.
4. «Народ і дзяржава». Выдрукавана ў альманаху «Заходняя Беларусь». Вільня 1924, ст. 79—92. Апублікавана таксама пад псеўданімам Т. Вароніч.

Баронячы беларускія і літоўскія справы, Врублеўскі сцвярджаў:

«Іх касцёлы, іх могілкі старыя, як і польскія, а можа яшчэ старэйшыя. Іх гістарычныя правы добра ўдакументаваны».

Асабліва ў Врублеўскага выклікала абурэнне ганебнае праследванне польскімі ўладамі беларускіх, літоўскіх і украінскіх школ. Пасля дакладнага азнаямлення з артыкулам 290 царскага кодэксу Врублеўскі гнеўна сцвярджае, што гэты артыкул разам з усім царскім кодэксам, знясла́ўлены праследваннем польскай школы, застаецца важны і строга прымяняецца польскімі судамі ў адносінах да нацыянальных меншасцей.

У шматлікіх судовых працэсах Врублеўскі бароніць камуністычных дзеячоў, беларускіх паўстанцаў, літоўскіх канспіратараў, а таксама беларускія і літоўскія школьныя справы. Хочацца тут прыпомніць вядомую прамову Тадэуша Врублеўскага на судовым працэсе 45 беларусаў-паўстанцаў з атрада Шыманюка, атамана бельскай групы, якая зрабіла некалькі ўданых нападаў на польскія ўстановы, між іншым на Кляшчэлі і Чарэмху, дзе былі знішчаны значныя колькасці дрэва, падрыхтаванага польска-французскімі прамыслоўцамі да вывазу за граніцу. Працэс адбываўся ў маі 1923 года ў Беластоку. Врублеўскі ў сваёй абароннай прамове, у якой жалезную логіку падтрымлівалі прафесіянальныя веды і выдатны талент аратара, умеючы ўсхваляваць, захопліваць і пераконваць, ярка паказаў тую ганебную практыку, якую прымянялі польскія ўлады супроць беларусаў. Адначасова ў гэтай прамове ён развівае свае погляды на нацыянальныя, палітычныя і грамадскія суадносіны ў Польшчы, моцна дамагаецца поўнага раўнапраўя для беларусаў.

Абарона беларусаў і беларускай справы спаткалася з вострай крытыкай з боку польскіх нацыяналістаў і шавіністаў. Адны абвінавачвалі Врублеўскага амаль у здрадзе Польшчы, другія шкадавалі, што столькі здольнасцей, энергіі і прафесіянальных ведаў аддае не для польскай справы. Але ў высакародным разуменні Врублеўскага абарона беларусаў у Беластоку была адначасова і абаронай Польшчы, польскай справы і перадавой польскай думкі згодна з добрай гістарычнай традыцыяй «за нашу і вашу свабоду».

### IV. СМЕРЦЬ ВРУБЛЕЎСКАГА

Тадэуш Врублеўскі быў не толькі вялікім абаронцам беларусаў, але быў і добрым знаўцам і сябрам беларускай культуры. Удзельнічаў на беларускай урачыстасці, прысвечанай 400-годдзю Францішка Скарыны, першага віленскага друкара. Выступаў тады з прамовай, якую пачаў словамі «Браты» па-польску, беларуску, літоўску і «хаверум» па-яўрэйску. Была гэта хвалюючая прамова. Яго голас глыбока пранікнуў у сэрцы ўсіх прысутных.

У Вільні Врублеўскі меў шмат адданых і верных сяброў сярод перадавых палякаў, беларусаў, літоўцаў, яўрэяў і рускіх. Таму яго нечаканая смерць 3 ліпеня 1925 года была агульнай жалобай сярод людзей розных нацыянальнасцей Вільні. Вянкі з напісамі па-польску, беларуску, літоўску і руску, прамовы над магілай у розных мовах. Усё гэта было доказам пашаны і вялікай удзячнасці жыхароў Вільна свайму дарагому абаронцу.

Врублеўскі пакінуў па сабе памяць не толькі як цудоўны абаронца пакрыўджаных. Вялікае грамадска культурнае і гістарычнае значэнне мае пакінуты ім кнігазбор. Сваю незвычайна багатую бібліятэку ён перадаў свайму роднаму гораду пры ўмове, што бібліятэку ні пад якім прэтэкстам не можна вывозіць з Вільні. Такім чынам Вільня атрымала навекі з поўнай гарантыяй навуковы апарат нязмернай вартасці. Асабліва вялікая колькасць бібліятэчных пазіцый датычыць гісторыі Вільні, Літвы і Беларусі, права эканоміі, археалогіі, фальклору, грамадскіх нацыянальных рухаў, а таксама літоўскай, беларускай, польскай, рускай і яўрэйскай культур і літаратур.

**ВАСІЛЬ БЕЛАКАЗОВІЧ**

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalnie — 7.20 łz. półrocznie — 14 40 zł, rocznie — 28 80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-6-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $. w Europie 5 $ — w USA.
Nakład 5458 Bitk A 3




## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

Злодзей злодзею памагае, але не перад судом.

*

Былі добрымі сябрамі, пакуль ён не пазычыў грошай.

*

Галоднага прыгожымі словамі не накорміш.

*

Разумнаму чалавеку часта галава лопае ад дурных думак.

*

Добры грамацей як напіша, то і сам не прачытае.

* * *

## ХТО ЁН

— Дачушка, хто гэты малады чалавек, з якім ты ўчора цалавалася?

— А ў колькі гадзін гэта было?

Прыслаў

**Янка Цялушэц**

* * *

## НЕ ДАСТАЛА

— Суседачка, чаго я да вас прышла. Пазычце індычых яек пад курыцу.

— Ах міленькая, ахвотна, але маю два індыкі і, дальбог, ніводзін не нясецца.

Прыслаў **С. Хоміч**

* * *

## ДАРОГА

П'яны моцна трымаецца ліхтарнага слупа.

Ідзе прахожы.

— Вы тутэйшы? — пытаецца п'яны.

— Тутэйшы, — адказвае прахожы. — А што?

— Дык пакажыце дарогу да другога слупа.

Прыслаў

**Уладзімір Красоўскі**







Без слоў

— Паглядзі, каханы, чацверапялёсткавая канюшынка!

— Юрка мне вельмі падабаецца, але цёшча — неее!

## МЯНЕ ВУЧЫЛІ АСЦЯРОЖНАСЦІ

Мяне вучылі асцярожнасці
Амаль на кожны божы дзень!
«З начальствам поруч
Часам можна йсці,
Ды не ўступі на іхні цень.

Лепш асцярожненька, з аглядкаю.
Навошта лезці на ражон?
Не зберагуць і бацька з маткаю,
Калі сябе не зберажом!

Ва ўсім сярэдзінкі трымайцеся!
Ці вам абрыдзелі харчы?
І белы хлеб у вас, і маселца,
І сон спакойны уначы...

Дзе небяспечна — не сварыцеся,
Кусайце лепей спадцішка!
І праўду вы не гаварыце ўсю,
Бо пасмяюцца з дзівака...

Сядзіце моўчкі ў ціхай гавані,
Дзе буры чуюцца ледзь-ледзь...»
З кім?
З малаверамі плюгавымі
Мне ў ціхай гавані сядзець?

Не стану лгаць — вы шмат дабіліся:
Сярод малых і важных спраў,
Салодкай фальшы вашай міласці
Я неадной давяраў.

І ўсё ж я горды нашай рознасцю!
Дазвольце ж мне у першы раз
Сказаць з усёй неасцярожнасцю:
О, як я ненавіджу вас!

НІЛ ГІЛЕВІЧ

## НА УРОКУ

Настаўніца: — Валодзя, навошта ты пытаеш у суседа, як ён задачу рашае?

Вучань: — Хто пытае, той не блудзіць.

Прыслаў

**Рыгор Канаховіч**

* * *

## А можа позна будзе?

«Увага! Грамадзяне, не стойце на рэйках, калі праходзіць поезд. За парушэнне штраф.»

(З аб'явы ля пераезда).

* * *

## Удалы пячнік

Адзін пячнік клаў печ. Паложыць цагліну, пастукае па ёй кулаком і кажа:

— Вось як і была тут!

Паложыць другую, пастукае кулаком і зноў гаворыць:

— Як і была тут.

Прыходзіць на другі дзень — печ развалілася.

Пячнік пачухаў патыліцу і прамармытаў:

— Гм... як і не было тут.

Прыслаў

**Клаўдзій Рыбінскі**

## ГАСПАДАР

Наліўшы піва ў куфаль і адстаўляючы яго, каб уселася пена, Кастусь расказваў прыяцелю:

— Пытаю жонку, чаму ў дзень шлюбу выконвала мае пажаданні, а цяпер — фігу з макам. Яна адказвае: «Гэта была твая апошняя воля».

— Мяняюцца дзяўчыны пасля шлюбу, — паспачуваў прыяцель.

Заахвочаны падтрымкай, Кастусь працягваў адкрыта гаварыць:

— Кажу жонцы, чаму не запраўляеш боршч смятанай? Прыемна, калі ў чырвоным баршчу плывае тлушч залатымі вочкамі, а ложка смятаны белым астраўком выдзяляецца ў талерцы. У Мікіты заўсёды такі боршч.

Жонка адказвае: «Не пратэстую, валяй на абед да Мікіціхі, калі нос крывіш ад майго гатавання».

Любоў, кажу, і на стале павінна адчувацца, а ты яе з карэннем вырываеш.

«Ты корань у баршчу не мачай, а калі не падушы, тут Бог, а там парог» — адазвалася жонка, і што зробіш?

— Дурны ты, як тытунь без агню, — сказаў прыяцель. — Хуткі шлюб ніц не варты. Жаніўся б ты на прыгажуні, дык прынамсі не было б крыўдна цярпець.

Кастусь абурыўся!

— Я жаніўся не для прыяцеляў. З маёй жонкай жыць можна, толькі словы ў яе цяжкія і крыўдныя.

— Бабскага языка не дагоніш, — згадзіўся прыяцель і параіў: — жонку трымаць трэба на кароткім павадку.

Вярнуўшыся ў хату пад хмяльком, Кастусь вырашыў аднавіць свой аўтарытэт.

Жонка сустрэла Кастуся пытаннем:

— Пазней не мог прыйсці, ідал паганы?

Кастусь дэманстратыўна, моўчкі прайшоў каля сваёй палавіны і ўсеўся, абапіраючыся локцямі на стол.

— Гэта што за парад? А ну, выносся ў сені выціраць ногі! Не ў канюшню прыйшоў, а ў хату, я не прыслуга падмятаць за табою!

Кастусь ударыў кулаком у стол і закрычаў:

— Змоўкні! Хто тут гаспадар?

Вочы ў жонкі акругліліся бы ў рыбы. Набліжаючыся да Кастуся, зашаптала злавесна:

— Голас падносіш, міленькі, так?

Бялеючы, Кастусь мармытаў:

— Ты чаго, ты што? Зусім ашалела, нават спытаць нельга, хто гаспадар.

— Гэта іншая справа, — міралюбна заўважыла жонка і дадала: — На басы не бяры, а то злякаюся і за сябе не ручаюся.

— Людзі добрыя, найгорш, калі муж і жонка паказваюць адзін другому свой характар.

Жонка не бот, з нагі не скінеш. І гэта разумець трэба.

*Дзядзька Лявон*

## КУР'ЁЗЫ

## ЗАКОН З XVII ст.

Група дэпутатаў брытанскага парламента дамагаецца скасавання старога закону з XVII ст., паводле якога кожнаму мужу пагражае грашовая кара за пабой жонкі ў часе ад 9 гадз. вечара да 6 гадз. раніцы. Закон гэты з'яўляецца важным у Англіі па сённяшні дзень. Справа ў тым, што — «крык бітых жонак можа перашкаджаць у начным адпачынку суседзяў» — пісаў старажытны законадаўца.

а-ся

* * *

## НЕ МАЕ ЗНАЧЭННЯ

Факір уваходзіць у краму:

— Мне лязо.

— Якой маркі?

— Не мае значэння. Гэта для жавання.

**ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ**

**По просьбе Мікалая Панфілюка з Дубіч Царкоўных, Гайнаўскага павета, змяшчаем старынную песню**

## СЛАЎНАЕ МОРА

**Словы Д. Давыдава**

**Славное море — священный Байкал,**
**Славный корабль — омулевая бочка.**
**Эй, баргузин, пошевеливай вал —**
**Молодцу плыть недалечко.**

**Долго я тяжкие цепи влачил,**
**Долго бродил я в горах Акатуя;**
**Старый товарищ бежать пособил,**
**Ожил я, волю почуя.**

**Шилка и Нерчинск не страшны теперь,**
**Горная стража меня не поймала,**
**В дебрях не тронул прожорливый зверь,**
**Пуля стрелка миновала.**

**Шел я и в ночь и средь белого дня,**
**Вкруг городов озираяся зорко,**
**Хлебом кормили крестьянки меня,**
**Парни снабжали махоркой.**

**Славное море — священный Байкал,**
**Славный мой парус — кафтан дыроватый.**
**Эй, баргузин, пошевеливай вал —**
**Слышатся грома раскаты.**